


№ 50(435) 15 СНЕЖНЯ 1999 г. наша СЛОВА

# “Трыумф” Васіля Быкава



*Народнаму пісьменніку Васілю Быкаву з нагоды прысуджэння незалежнай расейскай прэміі “Трыумф”*

*“Цешымся з Вашага трыумфу ў расейскіх дэмакратаў.*

*Верым, што і ў Беларусь прыйдзе час трыумфу айчынных талентаў!*

*Сакратарыят ТБМ.”*

## Праект праграмы падтрымкі беларускамоўнай адукацыі распрацаваны ў Міністэртве адукацыі краіны

Праект праграмы, накіраванай на падтрымку беларускамоўнай адукацыі, распрацаваны ў Міністэрстве адукацыі нашай краіны. Яна закранае ўсе ўзроўні навучання – ад дашкольнага да паслядыпломнага. Асаблівая ўвага ўдзяляецца вышэйшым і сярэднім спецыяльным навучальным установам. Перш за ўсё плануецца пашырыць выкарыстанне беларускай мовы ў гуманітарных і педагагічных навучальных установах.

Немалаважнай з'яўляецца і тая частка праграмы, якая прадугледжвае ўвядзенне ў кожнай ВНУ двух патокаў – беларускамоўнага і рускамоўнага. Менавіта такім чынам у Міністэрстве адукацыі вырашылі адказаць на заклікі стварыць Нацыянальны універсітэт.

Цяпер пераважнай мовай навучання ў Беларусі з'яўляецца руская. У мінулым навучальным годзе на ёй вучылася амаль 70 працэнтаў школьнікаў.

***Аксана Півавар, БЕЛТА.***

## А падпалкоўніка трэба судзіць

9 снежня ў судзе Савецкага раёна пачалося судовае паседжанне, у якім планавалася разгледзець справы чарговых затрыманых рэжыму. Перад самым пачаткам суда міліцыянт пачаў выганяць з залы суда грамадскіх абаронцаў і назіральнікаў ПЦ “Вясна-96”. Праваабаронца з “Вясны-96” Барыс Гюнтар запатрабаваў ад суддзяў Іны Шэйкі і Руслана Казадаева спыніць супроцьпраўныя дзеянні міліцыянта, а міліцыянта папрасіў прадставіцца. Міліцыянт адмовіўся назваць сваё прозвішча, але пасля ўмяшальніцтва Б.Гюнтэра прадстаўнікі ПЦ “Вясна-96” былі дапушчаны ў залы судовых паседжанняў.

Калі суддзя Шэйка пачала судовы працэс супраць В.Сіўчыка на рускай мове, В. Сіўчык запатрабаваў ад суддзі весці працэс на беларускай мове. Суддзя заявіла “На этом языке я не хочу и не буду вести процесс”, а падпалкоўнік міліцыі дадаў: “ На этом деревенском языке нечего говорить там, где все говорят по-русски”. У спрэчку ўступіў Барыс Гюнтар, які нагадаў суддзі і міліцыянтам, што ўступіў у сілу Закон аб абразе дзяржаўнай мовы, за парушэнне якога дзяржслужбоўцы могуць несці адміністрацыйную адказнасць ад 5-ці да 10-ці мінімальных заробкаў.

***Інфармацыйны аддзел Праваабарончага цэнтра “Вясна-96”.***



**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічных навук, прафесар, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

## “З чужой моўнай практыкі...”

Працяг

***Страсць, страсна, страсны.*** Чые гэта словы? Слоўнікі 20-х гадоў падавалі слова ***страсть*** толькі ў расейскай частцы слоўнікавага артыкула. У БРС-26 бачым: “Пал м. – страсть”. НТ2.4 (с.217). Гэтае слова, як адэкват рас. ***страсть*** было замацаванае ў “Беларускай навуковай тэрміналогіі”. Выпуск другі. “Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва”. Выпуск чацвёрты. “Тэрміналогія логікі і псіхалогіі”. Ад ***пал*** прыметнік ***палкі – страстный*** і ўтвораны ад яго назоўнік ***палкасць – страстность***. НТ2 (БРС-26. С.218). В.Ластоўскі фіксуе: “Страсть – духовы парыў да чаго, неакялзанае хаценьне, жаданьне; жаркасьць, жарскі, жарсьць, жарлівасьць, запальчывасьць... Жарсьці сваёй пастрымаць няможна. Губіць яго жарсьць да жанок ды гарэлкі”. (ПРК(Б) С.687), этымалагічна ***жарсць*** паходзіць ад ***жар***; ***жар – асць > жарсць*** (ЭСБМ. Т.3.Мн.,1985.С.216). Яго, ***жарсць***, занатаваў і “Віцебскі краёвы слоўнік” М.І. Касьпяровіча (Віцебск, 1927), і “Этымалагічны слоўнік беларускай мовы”.

Выкарыстоўваецца яно і ў сучасным нацыянальным друку. Але савецкія акадэмічныя слоўнікі яго не фіксуюць.

***Жарлівасць*** з знач. рас. ***страстность*** засведчана ў старабеларускай мове: ***жарливость ‘палкасць’*** (М. Прыгодзіч, Г.Ціванова. Старабеларускі лексікон – Мн., 1997.С.56).

Рас. ***страсть*** этымолагі лічаць утвораным ад ***страдать: strad-tь*** (Макс Фасмер. Этимологический словарь русского языка. Перевод с немецкого и дополнения О. П. Трубачева Т. 3 .М., 1971. С 771).

Акадэмічны “Русско-белорусский словарь” 1953 г. пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі фіксуе тры слоўнікавыя артыкулы з рас. ***страсть***, і толькі ў адным з іх бачым гэтае ***страсць*** побач з беларускімі ***пал*** і ***гарачае, моцнае, нястрымнае каханне***; пры гэтым ў ілюстрацыі ***страсць*** не падаецца: быть охваченым страстью – быць ахопленым гарачым (нястрыманым) каханнем (с.665). Тут яно і ў форме множнага ліку – ***страсти*** (страдание) уст. Рел. ***Пакута, мука, мучэнне.*** З першым, асноўным, значэннем рас. ***страсть*** мае наступныя беларускія адэкваты: ***гарачае, моцнае пачуццё, захапленне, цяга, схільнасць, прыхільнасць, заўзятасць, слабасць, ахвота, жаданне, запал, азарт. Страсть*** II. перакладаецца словамі ***страх, жах***; ***страсти да и только – страх (жах) ды і толькі***; ***до страсти*** – разг. ***страшэнна страшна. Страсть*** III. Нареч. простореч. ***Страшэнна; страшна, страх***; ***страсть люблю – страшэнна (страшна) люблю; народу на улицах – страсть – народу на вуліцах – страх***”. Гэтыя слоўнікавыя артыкулы поўнасцю захаваныя і ў пазнейшых яго перавыданнях: РБС – 82 (Т.2.С.450), РБС-93 і РБС-98 (Т.3.С.467), толькі ***пал*** замененае на ***палкасць***.

Але некаторыя акадэмічныя слоўнікі часу моцнай напругі да перамогі камунізму і ў беларускай частцы слоўнікавага артыкула пакінулі тое, што і ў расейскай. Так, у “Беларуска-рускім слоўніку” (Т. 2.Мн.,1989.С.514) чытаем: “Страсть ж. В разн. Знач. страсть; сунімаць страсці – сдерживать страсти; з усёй страсцю душы ён змагаўся за праўду”. Тут ужо і ўсе вытворныя расейскія словы – у абедзвюх частках артыкулаў: “Страсна нареч. (пылко, чувственно) страстно. Страснасць ж. – страстность”.

А вось у перакладным слоўніку (РБС-53), які вытрымаў шэсць выданняў, расейскія словы маюць адмысловыя беларускія адэкваты: “Сторастность 1. гарачае пачуццё, гарачая пачуццёвасць; адданасць; 2.заўзятасць; 3.палкасць. Страстный 1.(очень сильный) моцны; (горячий) гарачы; (преданный) адданы; страстное желание – моцнае (гарачае) жаданне; страстная любовь к родине – гарачая, адданая любоў да радзімы; 2.(крайне увлеченный чем-л.) заўзяты, страшэнны, страшны; страстный любитель музыки – заўзяты аматар музыкі; 3.(пылкий, чувственный) страсны, палки, гарачы; страстный взгляд – палки погляд; страстный поцелуй – гарачы пацалунак” (РБС-93 и РБС-98. Т.3.С.466,467). Страстно нареч. 1.(очень сильно) моцна; (горячо) горача; (преданно) аддана; 2. (с крайним увлечением) заўзята, страшэнна, страшна; 3. (пылко, чувственно) страсна, палка, горача” (Тамсама.С.466).

Як бачым, з усіх шматлікіх значэнняў і выкарыстанняў рас. ***страстный, страстно*** ў беларускай частцы падаюцца толькі аднойчы гэтыя словы як дублеты да сваіх адмысловых ***палкі, гарачы*** і ***палка, горача*** (перанесеныя з РБС-53).

Не зважаючы на гэта, нашыя тлумачальныя слоўнікі перацягнулі на свае старонкі ўсе гэтыя ***“страсці” і “страсныя”***.

Новы “Тлумачальны слоўнік” (Мн.,1996) дык скапіяваў свае артыкулы з выдання: С.И.Ожегов. Словарь русского языка. М., 1982.С.686., 687.

Такім чынам, беларуская мова мае свае адэкватныя адмысловыя лексемы да расейскіх ***страсть – палкасць, жарсць, гарачае моцнае пачуццё, захапленне, цяга, схільнасць, прыхільнасць, заўзятасць, слабасць, ахвота, жаданне, запал, азарт, страх, жах; страстно – моцна, горача, аддана, заўзята, страшэнна, страшна, палка; страстный – моцны, гарачы, адданы, заўзяты, страшэнны, палкі; страстность – гарачае пачуццё, гарачая пачуццёвасць; адданасць; заўзятасць, палкасць, жарлівасць.***

***Пасярэдніцтва, пасярэдніцкі, пасярэднік – ці пасрэдніцтва, пасрэдніцкі, пасрэднік?*** Слова ***пасярэднік*** утворана ад ***пасярод, пасярэдзіне (пасярэд-нік)***, ад ***пасярэднік – прыметнік пасярэдніцкі (<пасярэднік+скі)***, а ад яго назоўнік ***пасярэдніцтва (<пасярэднік+ства)***. Даслоўнае значэнне слова ***пасярэднік*** – той трэці, які стаіць пасярод двух і спрыяе пагадненню, дамове паміж імі. Рас. ***посредник*** ад ***посреди (посред-ник), посреднический, посредничество*** – ад ***посредник.*** Натуральнае беларускае слова ***пасярэднік*** засведчыў яшчэ В.Ластоўскі. У “Падручным расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку” (Коўна, 1924) чытаем: “Посредник, трэцьці выбраны двумя старанамі для спагоды, пасярэднік” (Факсімільнае выданне. Мн.,1990.С.517). Тут падаецца і вытворнае слова: “Посредствовать – пасярэднічаць; посредство ср. – способ, пасяродак”.

Парэформавыя (1933 г.) слоўнікі перайшлі на расейскамоўныя формы словаў: “Посредник – пасрэднік, посредничать – пасрэднічаць, посреднический – пасрэдніцкі, посредство – пасрэдніцтва. Але ж гэтая штучнасць відавочная: на той самай старонцы слоўнікаў бачым розныя ў беларускай і расейскай частках формы ўтваральных словаў: “Посреди 1.нареч. пасярэдзіне; 2. Предлог с род. П. сярод (каго-чаго), пасярод (каго-чаго), пасярэдзіне (каго-чаго)” (РБС – 82. Т.2. С.156).

Гэтыя словы з неўласцівай беларускай мове непаўнагалоснай формай ***пасрэд- (<посред-)*** на жаль, бачым ва ўсіх перакладных і тлумачальных беларускіх слоўніках (у тлумачальных – з перапіснымі з расейскіх слоўнікаў дэфініцыямі). Для савецкага часу гэта было законам – каб не аддаляцца ад усесаюзнага стандарту – расейскай мовы. У суверэннай Беларусі сталі выкарыстоўвацца свае – паўнагалосныя – формы: ***пасярэднік, пасярэдніцкі, пасярэдніцтва, пасярэднічаць.*** Улічыўшы маўленчую практыку, “Русско-белорусский словарь” 1993 года падае гэтыя беларускія словы на сваіх старонках. Праўда, не як адзінанармаваныя, а як паралельныя да ранейшых. На с.709 трэцяга тома бачым: “Посредник – пасрэднік, пасярэднік; посредница – пасрэдніца, пасярэдніца, посредничать несов. разг. пасрэднічаць, пасярэднічаць; посреднический – пасрэдніцкі, пасярэдніцкі; посредничество - пасрэдніцтва, пасярэдніцтва”.

Мяркуем, што беларускія формы стануць адзінымі ў слоўніках незалежнай Беларусі.

*(Працяг у наступным нумары.)*





# ДУХОЎНАЯ СТАРОНКА

*Наша мова для нас святая,*
*Бо яна нам ад Бога даная…*
*Францішак Багушэвіч.*



## АПОСТАЛЬСКАЕ БЛАСЛАВЕНСТВА

4 лістапада, у свята св. Караля Барамея Святы айцец Ян Павел II адзначыў свае імяніны. 31 кастрычніка ў Чырвоным касцёле адбылася святая Імша. Пад час малітвы верных кс. Уладыслаў і айцец Клаўдзій з радыё Ватыкана разам са шматлікімі маленькімі вернікамі, іх бацькамі, моладдзю і ўсімі прысутнымі на Богаслужэнні спецыяльна памаліліся за арцыпастырскае служэнне і здароўе Свяцейшага Айца. Ян Павел II даведаўся аб гэтым і накіраваў на імя пробашча касцёла св. Сымона і св.Алены ксяндза Уладыслава Завальнюка ліст падзякі і сваё асабістае блаславенне для дзетак Беларусі, якія маліліся за яго.

Гэты ліст мы прапануем вашай увазе.

***"Дарагія хлопчыкі і дзяўчынкі,***

***Свяцейшы Айцец высока ацаніў пачуцці сыноўскай любові, з якой, з нагоды Ягоных імянінаў, пад час Святой Імшы, адпраўленай 31 кастрычніка ў парафіяльным касцёле шаноўным айцом Клаўдзіем Робінэ S.J., вы ўзнеслі да Бога гарачую малітву.***

***Каб выказаць глыбокую падзяку за гэтую чуллівую думку і духоўную блізасць да Яго асобы і да Яго сусветнага служэння. Свяцейшы Айцец заахвочвае вас трывала ўзрастаць у даверлівым сяброўстве з Езусам, Які вельмі любіць маленькіх і, перадаючы кожнага з вас і вашых родных пад Нябесную апеку Дзевы Марыі і Святых Сымона і Алены, з радасцю накіроўвае вам сваё спецыяльнае Апостальскае Блаславенства, з задавальненнем прасцягаючы яго на ўсю парафіяльную супольку.***

***Таксама і я сардэчна вітаю вас, выказваючы пажаданне ўсяго найлепшага ў Госпадзе.***
***/ подпіс/***
***Монсіньёр Педра Лопес Кінтана***
***Асэсар".***

# КОНКУРС

## "МАЦІ БОЖАЯ БУДСЛАЎСКАЯ Ў МАІМ ЖЫЦЦІ І ЖЫЦЦІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ"

***Кожны народ мае ад Бога своеасаблівую ласку і абарону – сваю святыню, санктуарый – святое месца пілігрымак, сваіх святых заступнікаў – апекуноў. З даўніх часоў Каталіцкі касцёл даручыў Беларусь апецы св. Міхаіла Арханёла і Маці Божай Будслаўскай, Праваслаўная царква – апецы св. Еўфрасінні Полацкай.***

***Таму Каталіцкі клуб жанчын, які дзейнічае пры касцёле св.Сымона і св. Алены, з блаславення і дзякуючы гарачай падтрымцы Яго Эмінэнцыі Кс.Кардынала Казіміра Свёнтака абвясціў аб конкурсе "Маці Божая Будслаўская ў маім жыцці і жыцці Бацькаўшчыны" і запрасіў дзяцей і моладзь ва ўзросце ад 9 да 17 гадоў прыняць у ім удзел. Абвесткі аб умовах конкурсу былі змешчаны ў друку, у тым ліку, і ў газеце "Наша слова" (№31 ад 4.08.99г.).***

***Жадаючых прыняць удзел у конкурсе многа. Дзеці з ахвотай дасылаюць свае работы (малюнкі, вершы, апавяданні) на адрас Касцёла. Таму было прынята рашэнне падоўжыць конкурс да 15 снежня, а вынікі падвесці 29 снежня.***

***З работы дасланай на конкурс.***

## ІМГНЕННЕ І ВЕЧНАСЦЬ

Кожны дзень зрываймa лісток з календара. Пражыты яшчэ адзін дзень у бясконцым кругавароце часу… Жыццё – гэта бясцэнны дар, і трэба радавацца і даражыць кожным яго імгненнем, шчыра і моцна любіць, спяшацца рабіць добрыя справы, дарыць людзям радасць жыцця.

Так чамусьці павялося – мы часта шукаем выйсця ў малых і вялікіх справах, забываючы пра мудрасць пакаленняў, горкі, падчас, досвед гісторыі.

Мы ўступаем у трэцяе тысячагоддзе. Час азірнуцца і асэнсаваць, што набылі і што страцілі. Я хваліюся і перажываю за ўсё, што адбываецца ў маёй Беларусі. Самае галоўнае, не растрацілі мы душэўнае цяпло, не забыліся на самае святое багацце – гістарычную і культурную спадчыну, што засталася нам ад далёкага і блізкага мінулага. Толькі сабраўшы па часцінкам дабрыню чалавечую, зможам мы і ў цяперашніх умовах многае зрабіць.

*Ясная зорка надзеі гарыць,*
*Торыцца шлях наш вялікі.*
*Шчасце трывалае можна стварыць*
*Толькі сваімі рукамі.*

І ўсё ж хочацца верыць, што ўсе нашыя турботы і трывогі застануцца ў мінулым, а новы час прынясе светлую радасць, чаканне якой ужо даўно напаўняе душу.

Хачу, каб у жыцці было больш радасных хвілін, а побач са мною заўсёды былі добрыя сябры, каб іх было ўсё больш і больш. Сёння гэта асабліва неабходна, бо толькі на добрых людзях трымаецца гэты свет.

Спадзяванне, чаканне, мары… Спадзяванне на лепшае, на новае, на светлае. Чаканне чагосьці добрага, што даравала б нам незабыўныя імгненні радасці, якіх так не стае ў гэтым жыцці...

Запальваю маленькі агеньчык свечкі, што саграваe сваёй цеплынёй сэрца, усяляе надзею. Хочацца рабіць добра, несці радасць людзям, сваім сябрам, родным.

… Гляджу на трапяткі агеньчык, бы ў маленькую вечнасць, і бачу, як прабіваецца яркі агеньчык надзеі і нават упэўненасць у тым, што ўсё будзе добра ў маім родным краі. Я так задаволена, што і мне вядома вялікая таямніца, якая прыносіць людзям добра і радасць.

Маці Божая Будслаўская! Цудоўным святлом асвяці мой родны край, сагрэй цяплом свайго шчырага сэрца мой народ, каб не ведаў ён больш пакут і гора.

Няхай шчаслівымі растуць дзеці, ярчэй свеціць сонца і над зямлёй маёй ляцяць белы бусел...

## СВЯТЛО НЯДЗЕЛЬНАЙ ШКОЛЫ



***Ты пакуль што – быццам тая дзічка ў гаі,***
***На якую аніхто і не зважае.***
***Прышчапі ж галінак – з розуму і цноты,***
***З веры ў Бога шчырай, з дабраты, пяшчоты,***
***Гэткіх дасць яна пладоў.***
*(З кн.Ул.Сыракомлі "Вандроўкі па маіх былых ваколіцах").*

Пры касцёле св. Сымона і св.Алены дзейнічае нядзельная школа, якая рыхтуе дзяцей і моладзь ва ўзросце ад 7 да 16 год да першай Споведзі і першай Святой Камуніі.

Усе восем настаўніц-катэхетак маюць не толькі вышэйшую адукацыю, але і шчырую веру ў Бога, і добрае сэрца. Ахвяруючы сваю працу Богу, яны дапамагаюць касцёлу ў адраджэнні веры, усяму беларускаму народу – у адраджэнні мовы, кожнай сям'і – у выхаванні дзяцей. Уласнымі паводзінамі, сваім прыкладам, Божым словам яны дапамагаюць усім, хто прыходзіць у Храм, знайсці дарогу да Езуса Хрыста. Разам з дзеткамі яны спяваюць:

*Прыпеў:*

*Дзе магу шукаць Езуса,*
*Як яго знайсці?*
*Пакажы мне сцежку тую,*
*Па якой ісці.*

*1.У касцёле, у касцёле*
*Хрыстус мой.*
*У касцёле, у касцёле*
*Езус са мной.*

*Прыпеў.*

*2.У малітве, у малітве*
*Хрыстус мой,*
*У малітве, у малітве*
*Езус са мной.*

*Прыпеў.*

*3.Ва ўсмешцы, ва ўсмешцы*
*Хрыстус мой,*
*Ва ўсмешцы, ва ўсмешцы*
*Езус са мной.*

*Прыпеў.*

*4.Між намі, між намі*
*Хрыстус мой,*
*Між намі, між намі*
*Езус са мной.*

Езуса Хрыста", чытаецца "Евангелле", вывучаецца катэхізм, тлумачыцца дзесяць Божых, пяць касцельных і два прыказанні Любові. Сваё разуменне жыцця Бога дзеці адлюстроўваюць у малюнках. Рыхтуюць яны і інсцэніроўкі па біблейскіх сюжэтах. Жыхары Горадні, Шабунёў, Рубяжэвічаў, Смалявічаў мелі магчымасць паглядзець некаторыя з гэтых цудоўных спектакляў юных самадзейных артыстаў.

Атмасфера высокай духоўнасці, узнёсласці, дабрыні пануе на занятках. Паміж дзецьмі ўсталёўваюцца прыязныя адносіны, многія з іх знаходзяць тут сабе сяброў. Агульны клопат, інтарэсы яднаюць і бацькоў. Дзеці – натура шчырая, адкрытая, чыстая. Яны імкнуцца жыць, сумленна выконваючы дзесяць Божых прыказанняў. Сумесна складаюць малітвы, моляцца за ўсіх нас. Сваімі чыстымі галаскамі яны нясуць Богу шчырыя словы, поўныя веры і надзеі. Кожную нядзелю ў радыёперадачы "Голас душы" гучаць іх просьбы да Бога праз малітвы верных. Трэба спадзявацца, што Бог чуе іх.

Можна быць упэўненымі, што гэтыя дзеці не пакрыўдзяць слабога, пашкадуюць хворага, не зробяць зла іншаму чалавеку, не зняважаць старога, будуць беражліва ставіцца да ўсяго жывога на Зямлі. Кожны з іх звяртаецца да Анёла-апекуна са словамі:

*Анёле Божы, дружа мой,*
*Ты заўсёды пры мне стой,*
*Рана, ўвечары і ўначы*
*Будзь ласкаў дапамагчы.*
*Змагаць духа злога,*
*Верна служыць Богу,*
*Любіць маму, тату,*
*Край і родную хату.*
*Душу, цела сцеражы,*
*Да жыцця вечнага давядзі.*

ўрачыстае свята першай Святой Камуніі. Да гэтага дня яны рыхтуюць свае сімвалічныя сэрцайкі, на якіх пішуць свае лісты – пасланні да Бога. Хлопчыкі і дзяўчынкі, прымаючы Езуса ў сваё сэрца, вераць, што Бог іх пачуе, зразумее і абавязкова дапаможа. Іх пасланні кранаюць душу шчырасцю і непасрэднасцю. Вось некаторыя з іх, перададзеныя літаральна:

***- Пане Божа. Дзякую Табе за ўсё. Дапамажы маёй сям'і, каб мы ўсе былі здаровыя і каб усе людзі на Зямлі былі шчаслівыя.***

***- Дзякую Пану Богу за тое, што Ён ёсць, што дапусціў бліжэй пазнаць таямніцы Сусвету праз заняткі ў касцёле; што ў мяне ёсць бацькі, якія любяць мяне.***

***- О, Пане Езу! Дзякуй табе, што Ты памёр за мае грахі на крыжы. Прашу Цябе, зрабі так, каб мой тата павярнуўся да пана Бога, каб у нашай сям'і былі заўсёды парадак і лад, каб яна была дружнай. Пане Езу, прашу Цябе, змяні маё сэрца, зрабі так, каб я стала лепшай дзяўчынкай.***

Урачыстасць Святой Камуніі адбудзецца толькі ў траўні, а пакуль яшчэ школа жыве сваім будзённым жыццём (але хіба можна назваць будзённым – шлях да Бога?): ідуць заняткі, праводзяцца бацькоўскія сходы, збіраецца бацькоўскі камітэт, каб вырашыць пытанне аб сумесным святкаванні Божага Нараджэння. Настаўнікі і бацькі справядліва вераць у сілу духоўнага выхавання. "Калі дзіця будзе духоўна выхаваным, - лічаць яны, - будзе мір і згода ў сям'і, будзе паразуменне паміж народамі, будзе мір на Зямлі, бо Езус Хрыстус гаворыць так: "Я Святло Свету; хто пойдзе за Мною, той не будзе хадзіць у цемры, а атрымае Святло жыцця" (Ян 8, 12).




Навучальны год працягваецца, як і ў звычайнай школе, з верасня па травень. Кожная маці выбірае зручны дзень і час для заняткаў. На пранягу года разглядаюцца тэмы: "Стварэнне свету", "Нараджэнне Езуса Хрыста", "Смерць Езуса Хрыста", "Уваскрэшанне

Дзяцей вучаць быць міласэрнымі не толькі словам, але і справай. Яны рыхтуюць свае малюнкі і вырабы ў якасці падарункаў тым дзеткам, якія хварэюць або жывуць у нястачы.

У траўні выпускнікоў нядзельнай школы чакае

Усім, хто працуе з дзецьмі, застаецца толькі пажадаць: "Дай Божа, каб ведаў і сэрца ў вас было болей, чым неабходна для ўласнай патрэбы!"





*Уладзімір Арлоў*

# Адкуль наш род

*(Працяг)*

## У царскім палоне

Вайна прынесла яшчэ адно страшнае гора. Цар пастанавіў перасяліць у Масковію трыста тысяч беларусаў. Шмат нашых продкаў сталі прыгоннымі сялянамі расейскіх памешчыкаў. У Астрахані і іншых паўднёвых гарадах царскія стральцы бойка гандлявалі палоннымі з-пад Полацка, Віцебска і Мсціслава. Іх прадавалі персам і туркам у вечнае рабства па тры рублі за чалавека.

Вялікую частку палону цар пасяліў у сваёй сталіцы. Жыхары цёмнай, амаль цалкам непісьменнай Масквы здзіўляліся, што ледзь не палова перасяленцаў з Беларусі ўмела чытаць і пісаць. Нашы землякі адчынялі там школы. З гістарычных дакументаў вядома, што адну такую школу трымаў беларус Якуб Якаўлеў, а полацкі манах Варлаам вучыў маскоўскіх дзяцей лацінскай мове.

Самымі каштоўнымі для цара і ягоных баяраў палоннікамі былі беларускія майстры. З-пад Воршы перасялілі на чужыну друкароў з іхняй друкарняй. На ўсход гналі разьбяроў, ювеліраў, кафляроў, збройнікаў... Яны аздаблялі саборы і царскія палацы, вучылі свайму рамяству мясцовых людзей. Калі вы будзеце ў Маскве і трапіце ў крамлёўскія музеі, памятайце, што шмат якія скарбы Залатой, Срэбнай і Майстроўнай палатаў створаны таленавітымі рукамі нашых землякоў.

## Цяжкія страты

Вайна з Расейскай дзяржавай доўжылася трынаццаць гадоў – з 1654-га да 1667-га. Гэта была самая страшная і крывавая вайна за ўсю гісторыю Беларусі. Бітвы, голад і хваробы скарацілі насельніцтва нашай Бацькаўшчыны ў два разы. Загінуў кожны другі, а на ўсходзе Беларусі – кожныя восемдзесят чалавек з сотні. Напрыклад, у Полацку перад вайною было болей за 1500 дамоў, а засталося толькі сто, у Віцебску з 982 дамоў у попел і ў руіны ператварыліся 926. Захопнікі вынішчылі пад корань цэлыя беларускія роды.

Беларусь страціла Смаленскую зямлю.

Ад мора пралітай крыві летапісцы назвалі тыя гады не вайною, а патопам.

Велізарнай і незваротнаю стратай сталі для Беларусі не толькі палеглыя. Сотні тысяч беларусаў вайна назаўсёды адарвала ад родных дамоў і змусіла застацца на чужыне. Сярод іх быў і знакаміты сын нашага народа Сімяён Полацкі, якому будзе прысвечана наступнае апавяданне.



**Спусташэнне беларускіх земляў падчас вайны 1654 - 1667 г. г.**

**Пытанні і заданні:**

1. *За што цар пакараў смерцю свайго ваяводу Шэйна?*
2. *Раскажы, як паводзілі сябе на нашай зямлі расейскія войскі.*
3. *Чаму магілёўцы падняліся на паўстанне супраць царскіх стральцоў?*
4. *Колькі тысяч беларусаў цар хацеў перасяліць у сваю дзяржаву? Што рабілі палонныя на чужыне?*
5. *Чаму мы называем вайну 1654 – 1667 гадоў самай страшнай у гісторыі Беларусі?*

## Сімяён Полацкі

### Шлях па навуку

Чалавек, пра якога мы пагаворым, заваяваў славу пісьменніка і асветніка. Яго ведалі ў свеце далёка ад Беларусі. Але ён заўсёды з любасцю ўспамінаў яе і свой родны горад, у гонар якога ўзяў сабе прозвішча – Полацкі.

У дзяцінстве і ў юнацтве яго звалі Самойлам.

Хлопчык нарадзіўся ў 1629 годзе ў сям'і заможных гараджанаў. Навуку ён пачаў спасцігаць у школцы пры полацкім Богаяўленскім манастыры.

Тут не толькі вучылі чытаць, пісаць і лічыць, але і выкладалі лацінскую і грэцкую мовы.

Пасля школы Самойла паехаў вучыцца ў Кіеў, а потым у Вільню, дзе была акадэмія. Там выкладала шмат знакамітых вучоных, добра вядомых ва ўсёй Еўропе.

На занятках Самойла, напрыклад, чуў, што не Сонца круціцца вакол Зямлі, як тады лічыла большасць людзей, а наадварот – Зямля з іншымі планетамі круціцца вакол Сонца.

У гэты час полацкага юнака ўжо ведалі як таленавітага паэта.

Цікава, што свае вершы ён, апрача роднай беларускай мовы, пісаў яшчэ на трох – на польскай, лацінскай і расейскай.

### Вяртанне дадому

Якраз тады, калі Самойла быў віленскім студэнтам, пачалася вайна Рэчы Паспалітай з Масковіяй. Вільню захапіла расейскае войска. Царскія стральцы і казакі рабавалі дамы і храмы. Яны здымалі званы, абдзіралі з абразоў каштоўныя аправы, мучылі і забівалі манашак з манахамі. У касцёле святога Міхала захопнікі разбурылі магілу канцлера Льва Сапегі.

Трэба было ратавацца, і Самойла падаўся ў Полацк.

Родны горад сустрэў падарожніка пажарышчамі і падазронымі позіркамі маскоўскіх стральцоў, якія гаспадарылі на вуліцах. Самым надзейным прыстанкам для адукаванага чалавека быў у такое ліхалецце манастыр. Самойла пастрыгся ў манахі і атрымаў новае імя – Сімяён.

Ён пачаў працаваць у той самай школцы, дзе некалі вучыўся. Полацкія хлапчукі любілі настаўніка Сімяёна за цікавыя ўрокі, на якіх ён часта чытаў свае вершы. Вучні з захапленнем ставілі спектаклі ў створаным іхнім настаўнікам школьным тэатры. П'есы для яго таксама пісаў Сімяён.

Неўзабаве ў Полацк прыехаў маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч. Разам са сваімі вучнямі Сімяён выступіў перад ім з чытаннем вершаў. Тады вучоны палачанін яшчэ не ведаў, што праз колькі гадоў ён пераселіцца ў Маскву і будзе выхоўваць царскіх дзяцей.

### Ад'езд на чужыну

На Беларусі па-ранейшаму лілася кроў, гінулі людзі, зарасталі лесам палі. Страшная вайна здавалася бясконцаю, і Сімяён вырашыў пераехаць у Маскву.

Ён пакідаў бацькоўскую зямлю не таму, што любіў цара і хацеў яму служыць. Ён ведаў, што маскоўскія ўладары заўсёды былі ворагамі нашага народа. Але Сімяён хацеў, не баючыся за сваё жыццё, займацца навукаю і пісаць кнігі.

Адукаваных людзей у Расейскай дзяржаве было значна меней, чым у Беларусі. Таму палачаніна прынялі гасцінна. Цар часта зпрашаў Сімяёна ў палац і даваў яму розныя адказныя даручэнні. Прыдворныя здзіўляліся і захапляліся Сімяёнавымі вершамі. Да розных урачыстых выпадкаў паэт пісаў вершаваныя віншаванні, прычым рабіў іх у выглядзе крыжа, зоркі, сэрца або стужкі серпанціну.

СІМЯОН ПОЛАЦКІ (1629 • 1680)

Хутка Сімяёна прызначылі выхавальнікам і настаўнікам царскіх дзяцей, сярод якіх быў і будучы цар Пётр Першы.

Хоць паэт і быў пад царскаю абаронаю, жылося яму ў Маскве не надта соладка. Царкоўнікі лічылі яго веды і мудрасць небяспечнымі і чынілі Полацкаму ўсялякія перашкоды. Прыгняталі Сімяёна і бесчалавечна жорсткія маскоўскія парадкі. Пасля аднаго з маскоўскіх бунтаў царскім загадам сямі тысячам чалавек адсеклі галаву, а яшчэ пятнаццаці – руку ці нагу.

Сімяён пісаў у лісце да сябра, што, як толькі дазволяць абставіны, ён вернецца на радзіму.

### Слуга навукі і мастацтва

Сапраўднае шчасце і адпачанак для душы Полацкі знаходзіў у працы. Ён адчыніў у царскім палацы друкарню і выдаў там буквар, а потым і іншыя кнігі. У друкарні працавалі беларускія майстры, вывезеныя ў царскі палон. Нашы землякі сталі і акцёрамі створанага Сімяёнам у Маскве першага расейскага тэатра.

Але галоўным захапленнем асветніка, як і раней, заставалася паэзія. Штодня ён спісваў дробным почыркам па восем старонак. З-пад пяра Сімяёна выходзілі вершы і байкі, вершаваныя апавяданні і загадкі, п'есы і пераклады з іншых моваў.

Ён шчодра дзяліўся з чытачамі сваімі глыбокімі ведамі. З Сімяёнавых твораў можна было, напрыклад, даведацца пра асветніцу Еўфрасіннюі пра сем цудаў свету, пра ўласцівасці магніту і крэменю або пра біблейскага асілка Самсона, які нібыта забіў аслінаю косткаю тысячу ворагаў...

У шмат якіх вершах Полацкі змагаўся з тагачаснымі расейскімі забабонамі. Ён абураўся тымі масквічамі, якія мазалі дзяцей граззю, каб засцерагчы іх ад благога вока. Паэт высмейваў п'яніцаў і людзей, што верылі ў розныя кепскія прыметы. Не баяўся Сімяён павучаць і самога цара.

У Маскве наш зямляк напісаў болей за дзесяць кніг.

Ён не шкадаваў сябе, часта хварэў і рана памёр. У свае апошнія дні Полацкі часта думаў пра Беларусь. Ён склаў запавет, у якім падзяліў свае грошы паміж беларускімі манастырамі ў Полацку, Віцебску, Воршы, Менску і Вільні.

Пасля Сімяёна засталася найбагацейшая ў Маскве бібліятэка. Ён выхаваў некалькі расейскіх паэтаў. Выдавала новыя кнігі, адчыненая ягоным стараннем друкарня.

Праз некалькі гадоў пасля Сімяёнавай смерці запарожскія казакі папрасілі прыслаць ім з Масквы кнігі знакамітага палачаніна. Іхняе просьбы ніхто не выканаў, бо творы Полацкага ўжо былі абвешчаныя шкоднымі. Царкоўныя ўлады нават забаранілі ўспамінаць пра іх.

Магіла асветніка не захавалася, але ён стварыў сабе вечны помнік у людской памяці. У наш час перавыдаюцца ягоныя творы. Вучоныя і пісьменнікі пішуць пра Сімяёна кнігі. У Полацку будзе адчынены помнік нашаму выдатнаму земляку.

**Пытанні і заданні:**

1. *Што ты ведаеш пра дзяцінства Сімяёна Полацкага?*
2. *Чаму паэт вярнуўся з Вільні ў родны горад? Чым ён там займаўся?*
3. *Што прымусіла Сімяёна перасяліцца ў Маскву?*
4. *Раскажы, як жыў наш зямляк на чужыне.*
5. *Пра што пісаў Сімяён у сваіх вершах?*

*(Працяг у наступным нумары).*

# Жывая кніга прыроды

**Для педагогаў дашкольных устаноў**
**Укладальнік Ірына Марачкіна**

### ЗІМА. СНЕЖАНЬ.

Вось і зіма. Яе распачынае месяц снежань. Халодныя мяцеліцы, вятры і моцныя маразы ўрываюцца ў нашу старонку. Замярзае глеба. Бялюткай снегавой коўдраю пакрываюцца лугі і палеткі. Яліны і сосны апранаюць цёплыя шапкі. А рэчкі, азёры і крынічкі хаваюцца пад лёд.

У народзе кажуць: снежань год канчае, зіму пачынае.

У снежні самы кароткі дзень, усяго каля сямі гадзін, і самая доўгая ноч.

### ЗІМА

Сёння першы дзень зімы.
І сняжынкі ловім мы.
А сняжынкі – жартаўніцы:
На руках адна вадзіца.

*Ніна Галіноўская.*



### ЗЮЗЯ

Зюзя — Бог зімы. Зюзець – значыць мерзнуць, калець ад марозу. Зюзя ва ўяўленні беларусаў – стары з белымі, як снег, валасамі на галаве і такой жа даўжэзнай барадой, нізенькага росту, тоўсты чалавечак. Увесь у белай цёплай вопратцы, ногі ў яго босыя і галава нічым не пакрытая. У руцэ носіць жалезную булаву. Зюзя большую частку зімы праводзіць у лесе. Часам ён заходзіць у вёску, каб папярэдзіць сялян пра жорсткую суровую зіму, ці каб дапамагчы каму-небудзь, напрыклад, вызваліць ад холаду няшчасную бедную сям'ю, ці проста для таго, каб наесціся куцці. Каб як-небудзь задобрыць Зюзю, беларусы напярэдадні Новага года гатуюць, як звычайна, куццю, адкладваюць частку яе ў асобную міску і пакідаюць на ноч на асобным стале. Куцця застаецца цэлая, але павер'е сведчыць, што яе з'ядае Зюзя.

Кажуць, нібыта Зюзя, раззлаваўшыся на людзей, звычайна стукае сваёй булавой у пень і гэтым ударам робіць такі пераварот, такую ломку па ўсёй зямлі, што зямля, а часам і дамы трэскаюцца. Здаралася, кажуць, быць у лесе ў гэты час і пытаць: "Хто гэта там стукае?" На гэта пытанне быў адказ: "Сам Зюзя стукае, людзей ушчувае".

*З беларускай міфалогіі.*

### СНЯЖЫНКІ

- Мая сняжынка!
- Мая сняжынка! –
Крычаць, спрачаюцца дзве Ірынкі,
Сняжынкі ловячы, якія
Лятуць, як матылькі жывыя.
Пайшлі да зайчыка дзве Ірынкі,
Каб рассудзіў ён: чые сняжынкі?
А зайчык кажа: - Ну, пакажыце,
Хутчэй далонькі, свае раскрыйце!
Раскрылі. Дзівяцца дзве Ірынкі:
Куды падзеліся іх сняжынкі?

*Максім Танк.*

### ЗІМА

Надышлі марозы,
Рэчкі закавалі,
Белыя бярозы,
Шэранем убралі.
Замялі дарогі
Ветрыкі снягамі,
Лес, як дзед убогі
З доўгімі вусамі,
Апусціў галіны
І стаіць журботна,
Зрэдку верхавіны
Зашумяць маркотна.
Мяккая пярына
Вочы адбірае.
Белая раўніна –
Ні канца, ні краю.
Пад пялёнкай белай
Травы і лісточкі.
Рэчка анямела,
Змоўклі ручаёчкі.
Амярцвелі лозы,
Чуць галлём хістаюць,
А ў палях марозы
Ды вятры гуляюць.

*Якуб Колас.*

### СНЯЖЫНКА

Упала сняжынка
На шчочку Ірынкі –
Адразу ж растала,
Слязінкаю стала.
Смяецца Ірынка,
Плача сняжынка...

*Алена Кобец-Філімонава.*



### СНЕЖАНЬ

Снежань кружыць,
І скуголіць.
І з мяцеліцай
Сваволіць,
Мяккі снег
Бярэ ў ахапкі,
Беліць елак,
Сосен шапкі.
Толькі Янка не зважае.
Снег ён
Скруткамі качае,
"Бабу" лепіць
На двары,
Дзе сабраліся
Сябры.
Снежань
З веямі ідзе,
Нам нясе
Кароткі дзень.

*Авяр'ян Дзеружынскі.*

### ЧАРАЎНІЦА

З далёкай поўначы, з краю вечнага снегу і лёду парай белых калматых мядзведзяў, спавітая ў белыя пуховыя тканіны, прыехала да нас Чараўніца. Зачаравала воды нашай мілай Зямелькі, і зрабіліся яны камянямі празрыстымі. Зачаравала лясы нашы, і заснулі яны сном глыбокім. Патрэсла шырокімі рукавамі сваёй пуховай вопраткі, і пакрыліся палі нашы снежнай беллю. І лёг наш край пад нагамі Чараўніцы белы... ціхі... задуманы. Рада яна са свае моцы, усміхнулася смехам ясным, хоць і халодным, і ад гэтага ўсмеху заіскрылася ўсё кругом цэлым морам дыяментаў шматколерных. І стаіць сярод гэтага мора белі і бляску, магутная, грозная, хоць прыгожая, ды бязлітасная госця наша штогодняя з далёкай поўначы – Чараўніца-Зіма.

*Зоська Верас.*



# Давайце спяваць па-беларуску

## УЛІС





### Пляц Францыска

**С.Краўчанка – С.Краўчанка, Ф.Аксёнцаў**

G D Am
Доўгі Брод, Завулак Кветак і Траў,
C G C Am B
Не пытай мяне, дзе яны цяпер і не шукай,
G D Am
Крок у змрок, зноў такі самы мой шлях,
C G C Am
Плошча нумар два, плошча нумар тры,
B
Дзе тваё імя, мой пляц?

Em Bm C Am
Пляц Францыска, падковаў змулены гук,
Em Bm Am
Каляровая цэгла вякоў,
Em Bm C Am
Пляц Францыска, на небе недзе твой брук,
Em Bm Am C
Ты -- таемная зброя дзядоў.

Доўгі час, калі цябе не было,
Я хадзіў да крам, я купляў віно,
Каб неяк жыць.
Нехта зноў кахае жонак сяброў,
Шыбы б'е ўначы
Ды шукае ўцех,
Дык нашто яму той пляц?

Пляц Францыска, падковаў змулены гук...

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*
Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 13. 12. 99 г.
Наклад 3400 асобнікаў. Замова № 3486
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 100 000 руб., 3 мес.- 300 000 руб.
*Кошт у розніцу:* 25 000 руб.